# Голас Радзімы

№ 47 (1981)
20 лістапада 1986 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



**На двары лістапад. Часта цяжкія шэрыя хмары нізка навісаюць над прыціхлым лесам, апусцелым полем і стылай вадой. Дождж, а часам і снег нагадваюць, што зіма ўжо недзе на падыходзе. Але яна сёлета не спяшаецца да нас на Беларусь. Непагодныя дні чаргуюцца з яснымі і цёплымі. На вуліцах Мінска яшчэ цвітуць хрызантэмы, а ў лясах недалёка ад горада сустракаюцца познія грыбы — апенькі, зялёнкі, падзялёнкі. За гарачае спякотнае лета зямля моцна прагрэлася і астывае павольна і доўга. І ўсё ж начамі пачалі прыціскаць замаразкі. Прыгожая восень стаіць на Беларусі.**

**Фота С. КРЫЦКАГА.**

ТЫДЗЕНЬ ПРАФСАЮЗАЎ

## ДЭЛЕГАЦЫЯ З ФІНЛЯНДЫІ

Сустрэчы прадстаўнікоў прафсаюзаў СССР і Фінляндыі садзейнічаюць актывізацыі міжнароднага прафсаюзнага руху за разрадку напружанасці, спыненне гонкі ўзбраенняў, забеспячэнне трывалага міру ў Еўропе і на ўсёй планеце, заявіў кіраўнік дэлегацыі прафцэнтраў Фінляндыі, сакратар прафесіянальнага саюза ўрачоў Марку Ярымя. Ён выступіў на антываенным мітынгу, што адбыўся на Мінскім маторным заводзе. Дэлегацыя, якая прыбыла ў СССР у сувязі з правядзеннем Тыдня прафсаюзаў абедзвюх краін, тры дні знаходзілася ў Мінску.

Толькі ва ўмовах міру мы можам змагацца за матэрыяльны і духоўны дабрабыт, падкрэсліў Марку Ярымя. Мы горача падтрымліваем мірныя прапановы Савецкага Саюза, заклік да ЗША і іншых краін НАТО адмовіцца ад планаў «зорных войнаў».

У час знаходжання ў Мінску члены дэлегацыі былі прыняты ў Белсаўпрофе і Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі, наведалі эксперыментальную фабрыку верхняга трыкатажу і водагразелячэбніцу прафсаюзаў, агледзелі экспазіцыі Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны і Дома-музея I з'езда РСДРП.

НА СЕСІІ ААН

## У ДРУЖАЛЮБНАЙ АБСТАНОЎЦЫ

Міністр замежных спраў Беларускай ССР А. Гурыновіч даў снеданне ў гонар генеральнага сакратара ААН Х. Перэса дэ Куэльяра. На снеданні, якое прайшло ў дзелавой і дружалюбнай абстаноўцы, былі таксама адказныя супрацоўнікі сакратарыята ААН, пастаянныя прадстаўнікі СССР і УССР пры ААН, члены дэлегацыі БССР.

Дэлегацыя БССР на 41-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН правяла сяброўскую сустрэчу з дэлегацыямі сацыялістычных краін. Госці з вялікай цікавасцю глядзелі фільмы кінастудыі «Беларусьфільм» і азнаёміліся з фотавыстаўкай, якая адлюстроўвае гісторыю і развіццё Беларускай ССР.

У клубе рускай кнігі Сакратарыята ААН адбылася сустрэча сакратара праўлення Саюза пісьменнікаў БССР В. Казько з работнікамі Сакратарыята ААН і прадстаўнікамі міжнародных няўрадавых арганізацый. Для іх быў арганізаван кінапрагляд і дэманстравалася выстаўка дзіцячага малюнка школьнікаў БССР.

З ВЫСОКАЙ ТРЫБУНЫ

## СУПРАЦЬ ПСІХАЛАГІЧНАЙ ВАЙНЫ

Беларуская ССР разам з многімі іншымі краінамі свету заклікала ААН садзейнічаць рашучым мерам для спынення недапушчальнай практыкі інфармацыйнага імперыялізму і псіхалагічнай вайны супраць Дэмакратычнай Рэспублікі Афганістан.

Звыш 50 падрыўных радыёстанцый прымаюць удзел цяпер у псіхалагічнай вайне супраць ДРА. Гэтую лічбу, якая наглядна паказвае маштабы злавеснай кампаніі ілжы і дэзінфармацыі, развязанай супраць афганскага народа, прывёў прадстаўнік гэтай краіны Алі Ахмед Джушан, выступаючы ў Спецыяльным палітычным камітэце Генеральнай Асамблеі ААН.

У параўнанні з перадрэвалюцыйным перыядам аб'ём накіраваных на, а дакладней, супраць Афганістана радыёперадач узрос у 30 разоў і дасягае 110 гадзін у суткі, паведаміў ён. Сотні кніг, газет, часопісаў, брашур, кіно-, тэле- і фотапрадукцыя актыўна выкарыстоўваюцца ў неаб'яўленай вайне, якую ўзначальвае ЦРУ, супраць афганскай рэвалюцыі. Гэта з'яўляецца сур'ёзным парушэннем усіх норм і прынцыпаў міжнароднага права.

КАНФЕРЭНЦЫІ

## МАЦНЕЦЬ СЯБРОЎСКІМ СУВЯЗЯМ

У Мінску праходзяць справаздачна-выбарныя канферэнцыі рэспубліканскіх аддзяленняў савецкіх таварыстваў дружбы. Іх удзельнікі падводзяць вынікі работы па ўмацаванню сяброўскіх і культурных сувязей з грамадскасцю зарубежных краін, намячаюць планы на будучыню.

Беларускае аддзяленне Таварыства савецка-кубінскай дружбы, адзначыла намеснік старшыні праўлення аддзялення, загадчыца аддзела народнай адукацыі і культуры Упраўлення справамі Савета Міністраў БССР Т. Дзмітрыева на канферэнцыі, у 1981—1986 гадах правяло вялікую работу па азнаямленню кубінскіх сяброў з поспехамі савецкага народа ў камуністычным будаўніцтве, эканамічным і культурным жыцці рэспублікі. Асаблівая ўвага ўдзялялася арганізацыі інтэрнацыянальнага сацыялістычнага спаборніцтва аднатыпных калектываў, абмену вопытам, расшырэнню кантактаў у рамках сацыялістычнай эканамічнай інтэграцыі.

Канферэнцыя выбрала новы састаў праўлення аддзялення таварыства. Яго ўзначаліў намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР У. Мікуліч.

У той жа дзень адбылася канферэнцыя Беларускага аддзялення Таварыства савецка-кітайскай дружбы (ТСКД). Дакладчык—міністр сацыяльнага забеспячэння БССР Г. Крыулін і актывісты расказалі аб разнастайных формах азнаямлення працоўных Беларусі і Кітая з жыццём і дасягненнямі абедзвюх краін.

Удзельнікі канферэнцыі намецілі мерапрыемствы па далейшаму развіццю супрацоўніцтва. Выбраны новы састаў праўлення Беларускага аддзялення ТСКД. Яго старшынёй стаў Г. Крыулін.

МІЖНАРОДНЫЯ ПАГАДНЕННІ

## АЎТАРЫТЭТ РАСПРАЦОВАК

Важную вестку атрымалі з Югаславіі кіраўнікі Фізіка-тэхнічнага інстытута АН БССР. Падпісаны адразу чатыры ліцэнзійныя пагадненні на набыццё распрацовак беларускіх вучоных.

Фізіка-тэхнічны інстытут не ўпершыню выходзіць на міжнародную арэну са сваімі тэхналогіямі і абсталяваннем. Ім ужо заключана 13 навукова-тэхнічных пагадненняў з замежнымі фірмамі і арганізацыямі са Швецыі, Фінляндыі, Італіі, Аўстрыі, Балгарыі. Практычна ў кожную краіну пастаўляецца новае абсталяванне або тэхнічная дакументацыя. На гэты раз прадметам пагаднення сталі станы папярочна-клінавой пракаткі дэталей, прэсы гідра- і пнеўмаўдарнай штампоўкі, інструмент для ратацыйнага рэзання металаў, абсталяванне і тэхналогія электраэразійнага вырабу рабочых элементаў штампаў.

ДЛЯ СЯБЕ І ЗА МЯЖУ



**Прадукцыю Беларускага вытворчага аб'яднання мастацкай керамікі добра ведаюць у нашай краіне. Ідзе яна і на экспарт — у ЧССР, Югаславію, Фінляндыю, Іярданію. У асартыменце вырабаў прадпрыемства — разнастайны посуд, наборы для чаю і кавы, вазы, дэкаратыўныя гаршкі для кветак, інтэр'ерная кераміка.**

**НА ЗДЫМКУ: жывапісец цэха керамікі прадпрыемства Людміла ЦАРЛЮКЕВІЧ.**

ДАХОДНАЯ ГАЛІНА



**Развядзеннем гусей, качак займаюцца зараз многія сельскія гаспадаркі Беларусі. Гэты напрамак жывёлагадоўлі прыносіць калгасам і саўгасам значныя даходы. Каля чатырохсот рублёў чыстага прыбытку, напрыклад, намячаюць атрымаць сёлета ад рэалізацыі качынага мяса птушкаводы калгаса імя Кірава Шклоўскага раёна Магілёўскай вобласці.**

**НА ЗДЫМКУ: механізаваная раздача кармоў у птушніку гаспадаркі.**

АПАРАТ-МАЛЮТКА

## ЧЫСТЫ ГОЛАС «СВИРЕЛИ»

За межы краіны выйшла папулярнасць мініяцюрнага радыёпрыёмніка «Свирель»—прадукцыі аршанскага завода «Чырвоны Кастрычнік». Першая партыя вырабаў адпраўлена чэхаславацкім сябрам.

Міжнародны аўтарытэт «Свирель» заваявала перавагай над іншымі айчыннымі і замежнымі радыёпрыёмнікамі гэтага класа. Пры маленькіх габарытах у яе моцны і чысты голас, магчымасць прымаць перадачы на двух дыяпазонах. Апараты-малюткі вельмі прыгожыя, эканамічныя і зручныя ў карыстанні.

СУПРАЦОЎНІЦТВА

## ВЫСТАЎКА Ў БРЭСЦЕ

Выстаўка тавараў культурна-бытавога прызначэння, на якой экспанаваліся вырабы мясцовай прамысловасці Латвіі, Літвы, Эстоніі, Беларусі і фірм Польскай Народнай Рэспублікі, завяршылася ў Брэсце. Яе ўдзельнікі абмеркавалі перспектывы супрацоўніцтва прадпрыемстваў, што спецыялізуюцца на выпуску тавараў народнага спажывання, намецілі канкрэтныя меры па паляпшэнню гандлю імі.

Такая выстаўка праводзілася ў рэспубліцы ўпершыню. У ёй былі прадстаўлены паўтары тысячы вырабаў прадпрыемстваў і народных промыслаў Польшчы, з якой у нас у рамках эканамічнай інтэграцыі краін—членаў СЭУ ўсталяваліся трывалыя гандлёвыя сувязі. На польскім рынку рэалізуюцца беларускія халадзільнікі, фотаапараты, гадзіннікі, піяніна, пасуда, тканіны. А за кошт імпарту з ПНР наша рэспубліка таксама ў значнай ступені пакрывае патрэбнасці ў таварах народнага спажывання, паліграфічным абсталяванні, сельскагаспадарчых машынах, садавіне. Расшыраецца партнёрства, двухбаковы абмен таварамі паміж універмагамі Брэста і Любліна, Мінска, Варшавы і Познані. Выкарыстоўваць у большай меры такія магчымасці дапаможа і праведзеная выстаўка.

Спецыялісты міністэрстваў мясцовай прамысловасці, планавых органаў рэспублік рэгіёна намецілі, як больш поўна выкарыстоўваць для выпуску вырабаў культурна-бытавога прызначэння другасную і мясцовую сыравіну, абмяняліся вопытам, дамовіліся сканцэнтраваць вытворчасць каля 30 відаў тавараў на тых прадпрыемствах, дзе добра адладжана тэхналогія. Прадугледжана асвоіць выпуск 86 новых вырабаў, якія карыстаюцца павышаным попытам.

АЙЧЫННАЯ МАРКА

## УДАСТОЕНЫ МЕДАЛЯ

Вертыкальны апрацоўчы цэнтр Гомельскага станкабудаўнічага завода імя Кірава на міжнароднай выстаўцы ў чэхаславацкім горадзе Брно ўдастоены залатога медаля і дыплома першай ступені.

Прадпрыемства ўзяло курс на ўкараненне найноўшых дасягненняў навукі і практыкі, выпуск прагрэсіўных відаў прадукцыі. Пачалася рэканструкцыя цэхаў. Яна дазволіць к канцу пяцігодкі павялічыць вытворчасць вертыкальных і гарызантальных апрацоўчых цэнтраў у восем разоў. На іх аснове будуць стварацца гібкія вытворчыя сістэмы, якія здольны лагічна мысліць, браць на сябе многія функцыі чалавека і працаваць ва ўмовах бязлюднай тэхналогіі.

Гомельскія станкі і агрэгаты экспартуюцца сёння ў 78 краін свету.

ПЧАЛЯРСТВА

## НА ЗІМНІЯ «КВАТЭРЫ»

На зімнія «кватэры» дастаўлены вуллі ў гаспадарках беларускага Палесся. З палёў і лясных урочышчаў на цэнтральныя сядзібы звезена звыш 23 тысяч пчаліных домікаў.

Пчалярства на Брэстчыне набывае сёння асаблівае значэнне як апыляльны цэх раслінаводства. На квітнеючыя палі канюшыны і грэчкі вывозілася больш за дваццаць тысяч вулляў.

У садружнасці з пчалярамі значна павысілі ўраджайнасць грэчкі і насеннікаў канюшыны перадавыя гаспадаркі Брэсцкага, Маларыцкага, Камянецкага, Драгічынскага і іншых раёнаў.

АХОВА ЗДАРОЎЯ

## ДЫПЛОМ ЗА «ГАМІБАЗІН»

Дыпломы ВДНГ БССР былі ўрачыста ўручаны нядаўна намесніку дырэктара Беларускага навукова-даследчага санітарна-гігіенічнага інстытута, доктару медыцынскіх навук В. Талапіну, старшаму навуковаму супрацоўніку, кандыдату медыцынскіх навук Е. Рымжу і кіраўніку аддзела, кандыдату хімічных навук А. Пярцоўскаму. Так адзначаны іх уклад у распрацоўку і ўкараненне ў медыцынскую практыку новых супрацькурыльных прэпаратаў.

Размова ідзе аб жавальнай гумцы «Гамібазін», якая распрацавана ў інстытуце і з'яўляецца прадстаўніком прынцыпова новых лекавых форм барацьбы з курэннем. Апрача нашай краіны, яе перавагу могуць ацаніць курыльшчыкі Іспаніі і Італіі (гэтыя краіны заключылі з СССР ліцэнзійнае пагадненне аб вытворчасці савецкага медыцынскага прэпарата). Нядаўна беларускія вучоныя распрацавалі новую тэхналогію, што дазваляе адмовіцца пры вырабе антынікацінавай жавальнай гумкі ад імпартных кампанентаў. Яна адобрана Міністэрствам аховы здароўя СССР.

САЦЫЯЛЬНАЕ РАЗВІЦЦЁ

## ПАЛІКЛІНІКА НА БЕРАЗЕ ДЗВІНЫ

Першых наведвальнікаў прыняла нядаўна новая паліклініка ў Чыгуначным раёне горада Віцебска на беразе Паўночнай Дзвіны.

Цяпер у нас з'явілася магчымасць значна палепшыць лячэбна-дыягнастычнае абслугоўванне жыхароў абласнога цэнтра, гаворыць галоўны ўрач паліклінікі В. Шчэмелеў. Раней некаторыя службы знаходзіліся ў розных будынках, працаваць было нязручна.

У новай паліклініцы створаны самыя спрыяльныя ўмовы для прафілактычнай і аздараўленчай работы. Увесь першы паверх адведзены для аднаўленчага лячэння. Два басейны, для дарослых і дзяцей, розныя лячэбныя гразі, радонавыя ванны, падводны душ-масаж дапамогуць паправіць здароўе тысячам пацыентаў. Ёсць тут фізіятэрапія, іголкаўколванне і іншыя эфектыўныя метады лячэння. Плануецца стварыць кабінеты стаматалагічны і псіхалагічнай разгрузкі.

# САЎГАС «БЕЛАРУСКІ» НА ПСКОЎШЧЫНЕ

## II. ДАРОГА Ў АДЗІН КАНЕЦ

— Вось пазнаёмцеся, — гаворыць дырэктар саўгаса «Беларускі» Дзмітрый Андрэеў, прадстаўляючы двух маладых хлопцаў, што сядзяць у яго кабінеце.— Вашы землякі: Сяргей Багай і Валодзя Жукаў. Хочуць пераехаць да нас жыць і працаваць.

Мы разгаварыліся. Хлопцы расказалі, што прыехалі з Магілёўскай вобласці, з горада Крычава. Пра саўгас «Беларускі» даведаліся ад сваіго сябра, які ўжо трэці год жыве тут. Ён і параіў пераехаць сюды. Але перш захацелі паглядзець самі, разведаць, як кажуць, што тут і да чаго. Якія ўражанні? Пасёлак спадабаўся. Работа таксама задавальняе — ім прапануюць пайсці слесарамі на жывёлагадоўчы комплекс. Так што праз месяц-другі яны прыедуць у «Беларускі» ўжо разам з сем'ямі.

Такіх гасцей у кабінеце дырэктара саўгаса можна застаць даволі часта. Прыязджаюць, безумоўна, не толькі з нашай рэспублікі (я ўжо гаварыў, што ў «Беларускім» жывуць людзі 17 нацыянальнасцей). Спачатку едуць паглядзець, нешта ўжо ведаючы пра новы саўгас з прэсы ці ад знаёмых. Некаторыя, праўда, вяртаюцца назад ні з чым: або не знаходзяць таго, што хацелі б (праца, напрыклад, не падабаецца), або іх прафесіі саўгасу не патрэбны.

— Бывае, адмаўляем і па той прычыне, што нас не задавальняе ўзровень кваліфікацыі спецыяліста ці яго асабістыя якасці,— расказвае Дзмітрый Андрэеў.— Высвятляецца, скажам: малады чалавек мяняе ўжо пятае месца працы — ледзь ці не кожны год. Чаму? Аказваецца, там не сышоўся з калегамі, тут не спадабалася, цяпер жа звольнілі за прагулы... Думаю, такі работнік наўрад ці дзе больш года-двух затрымаецца. Пасля нас ён зменіць яшчэ пяць месцаў і пойдзе шукаць шостае. Таму мы і адмаўляем яму, прама называючы прычыну: на часовую работу не прымаем.

Нашы землякі ўсталяваліся ў «Беларускім» грунтоўна, прынамсі, тыя, з кім давялося размаўляць, не збіраюцца купляць білет у адваротны бок.





Мікалай і Ала Якушавы прыехалі з Клімавіч Магілёўскай вобласці ў 1982 годзе. Увогуле, збіраліся адправіцца куды-небудзь далей на Поўнач ці ў Сібір (канкрэтнага адрасу не было) — рамантыкі, кажуць, захацелася. З гэтым і прыйшлі ў райком камсамола. Ім прапанавалі некалькі варыянтаў, сярод іх і саўгас «Беларускі» ў Нечарназем'і. Работнікі райкома ўзяліся ўзгадняць дэталі пераезду, а Якушавы пачалі пакаваць рэчы. Старэйшая сястра Алы — Святлана і яе муж Рыгор Багуза падтрымалі ідэю Якушавых і надумалі паехаць разам з імі. Вырашылі, што дзеці пабудуць дома з бабуляй, пакуль не наладзяць быт на новым месцы.

З двух чамаданаў Якушавы і пачалі жыццё ў «Беларускім». Мікалай працаваў у саўгасе шафёрам. Ала — даяркай. Па першым часе давялося жыць у гасцініцы. Але ўжо праз месяц яны атрымалі двухпакаёвую кватэру і пачалі патроху абжывацца. Калі нарадзілася дачка і іх стала чацвёра, Якушавым прапанавалі больш прасторную трохпакаёвую кватэру, дзе яны зараз і жывуць разам з шасцігадовым Колем і трохгадовай Наташай.

Не было праблем і ў Рыгора і Святланы Багузаў. Добра ўладкаваліся, абжыліся як след. Іх цяпер таксама чацвёра — у дзесяцігадовай Сняжаны летась з'явілася сястрычка Цвятана. Дарэчы, услед за Алай і Святланай пераехалі ў пасёлак Беларускі і іх бацькі, каб жыць разам з дзецьмі. Ім саўгас выдзеліў асобную кватэру.

Але напэўна самую вялікую радню ў пасёлку мае Юрый Токін. Мы хацелі сфатаграфаваць іх усіх разам, але тады давялося б многіх людзей адарваць ад работы, таму вы[illegible]шылі абмежавацца толькі [illegible]кам Юрыя.

Токін [illegible]рапіў у «Беларускі» выпадкова. Каб не тая паездка ў госці да сваяка, які працаваў тут, Юрый, магчыма, і зараз бы жыў у сваім Крычаве. Саўгасу ж тады якраз пат[illegible]бен быў чалавек, яго пра[illegible]і (Токін — ветэрынарны [illegible]рач, скончыў сельскагаспадарчы тэхнікум).

— Калі мне сказалі пра гэта, я спачатку адмахнуўся — успамінае Токін.— А потым падумаў: чаму я адмаўляюся? Работа па мне, заработак добры, адразу даюць жыллё... Калі дома расказаў пра гэта, першая рэакцыя жонкі таксама была негатыўнай. Але абмеркавалі прапанову і прыйшлі да лагічнай высновы, што для нас, людзей маладых і лёгкіх на пад'ём, яна цалкам прымальная. У «Беларускім» мы ўжо трэці год і бачым, што з выбарам не памыліліся.

Па рэкамендацыях Токіных у саўгас прыехалі яшчэ некалькі сем'яў іх сваякоў. Так цэлы род і сабраўся. Цяпер Юрый усяляк рэкламуе «Беларускі» сярод сяброў і знаёмых у Крычаве. Вы, напэўна, ужо здагадаліся, што тыя маладыя хлопцы, з якімі мы пазнаёміліся ў кабінеце дырэктара, таксама скарысталі параду Токіна. Дарэчы, у «Беларускім» Юрый сустрэў і сваіх тэхнікумаўскіх сакурснікаў Ніну і Сяргея Рэвянцовых. Аказалася, яны прыехалі сюды літаральна на два месяцы раней за яго, даведаўшыся пра новы саўгас з газет.

Большасць нашых землякоў, прыехалі ў «Беларускі» з Магілёўшчыны і Віцебшчыны і пераважна з тых раёнаў, якія суседнічаюць з Расіяй. Але нямала людзей і з іншых абласцей.

У наступным нумары мы раскажам, як жывуць і адпачываюць людзі саўгаса «Беларускі».

**Ігар ГЕРМЯНЧУК.**




**НА ЗДЫМКУ: Юрый ТОКІН; Ніна УСЕНЯ прыехала ў «Беларускі» з Мінска, яна па прафесіі педагог, працуе ў школе; Мікалай ЯКУШАЎ з сынам і дачкой.**

**Фота С. КРЫЦКАГА.**

---

**НА СУСТРЭЧУ ПРЫЯЗДЖАЮЦЬ ДЗЕЦІ, УНУКІ, ПРАЎНУКІ**

# ТАМ, ДЗЕ БЫЛА ВЁСКА

КАЛІ Б НЕ ВАЙНА, магчыма і сёння стаяла б гэтая хата ў вёсцы Лахазва. А чаму б і не? Высокі падмурак быў выкладзены з абчасаных валуноў, зруб смалісты — такі дом сто гадоў прастаіць, бярвенне пачарнее з часам, але ўсё адно будзе трывалае, бы загартаваная цэгла. А хату ставілі за год-другі да вайны. Значыць ёй яшчэ і паўстагоддзя не было б...

Але няма хаты. Згарэла яна ў першыя дні вайны. Згарэла ўся вёска Лахазва. Яна стаяла сярод лесу недалёка ад прамога шляху з Брэста на Маскву. Ад дарогі, па якой у ракавы сорак першы год папаўзла ў глыб краіны браніраваная армія Гітлера. Цалкам можа быць, што на картах фашысцкіх генералаў вастрыё галоўнага ўдару ўпіралася ў гэтую маленькую кропку з назвай Лахазва. Яго спрабавалі сагнуць, затупіць: артылерыйскі разлік нашай процітанкавай пушкі даў тут, каля ваколіцы вёскі, свой апошні бой. Некалькі танкаў падбілі. Але бой быў няроўны...

Помсцячы, фашысты ўдарылі запальнымі снарадамі па вёсцы. Лахазва згарэла ўся, датла. Людзі цудам ураталіся.

Іван Несцяровіч тады быў яшчэ хлапчуком. Самы страшны ўспамін яго дзяцінства — той жахлівы дзень, той жахлівы пажар. Агонь перакідваўся з адной хаты на другую, драўляныя дамы гарэлі, бы порах. У гэтым агні згарэла і яго бацькоўская хата.

І ўсё ж... І ўсё ж мы сёння можам дэталёва разглядзець гэты дом. Іван Несцяровіч, цясляр па прафесіі, працуе на Слонімскай картонна-папяровай фабрыцы, зрабіў падрабязны яго макет. Можна зазірнуць у невялікія, памерам з блакнот, акенцы. І тады пабачыш інтэр'ер і ўбранне хаты. Стол каля акна, палавікі, раскатаныя ад парога да кута, пабеленую печ... Вянкі гэтай хаты таксама складзены з дрэва. Праўда, бярвенні таўшчынёю ўсяго ў палец, але сапраўдныя, сасновыя. І нават дзе-нідзе на іх праступаюць дробненькія, залацістыя кропелькі смалы. Словам, вельмі дакладны, паменшаны ў некалькі разоў макет вясковай хаты.

— Не, гэта не макет,— не згаджаецца Іван,— гэта помнік.

Мы маўчым, углядаючыся ў невялічкі помнік. Як многа ўсё-такі значэння ў гэтага слова «помнік». Ім можа быць і вялізны мемарыяльны комплекс, і трыумфальная арка, узведзеная ў цэнтры горада, і калона, і абеліск каля дарогі, і вось такая дакладная копія сялянскай хаты. Помнік для душы, для сэрца толькі аднаго чалавека, для Івана Несцяровіча, для хлапчука Іванкі са спаленай Лахазвы.

Ёй не суджана было адрадзіцца пасля вайны. Сёння на месцы вёскі — а гэта на мяжы Слонімскага і Баранавіцкага раёнаў — пустка. Толькі зарослыя травой падмуркі, ды здзічэлыя яблыні, ды абваленыя калодзежы, ды могілкі за ваколіцай на ўзгорку напамінаюць, што калісьці тут жылі людзі.

Далёка па часе тая жахлівая трагедыя Лахазвы, далёка па адлегласці ад сваёй былой вёскі жывуць адны яе жыхары, другія — бліжэй. Але кожны год, у вызначаны загадзя дзень, яны збіраюцца тут, сярод лесу, дзе была іх вёска, на тым месцы, дзе прайшлі дзяцінства і юнацтва. Прыязджаюць з дарослымі дзецьмі, з унукамі, праўнукамі.

Многа гадоў назад нарадзілася гэтая традыцыя.

— Так, самой вёскі няма,— уздыхае Іван Несцяровіч.— Але ж гэта не значыць, што і памяці няма. Памяць пра Лахазву берагуць людзі. А калі ёсць людская памяць — значыць жывая вёска, жывая ў гэтай памяці, значыць мы — землякі.

Доўга шукаў фабрычны цясляр адрасы людзей, сваіх аднавяскоўцаў, у якіх вайна забрала вёску і якія раз'ехаліся па ўсёй краіне. Ён знаходзіў іх на суседняй Украіне і далёка за Уралам, у Расіі. Ён пісаў ім лісты, што добра б было ім, землякам, аднойчы сабрацца разам на тым месцы, дзе іх Лахазва стаяла. Ушанаваць памяць аднавяскоўцаў, што загінулі ў баях з фашыстамі, схіліць галовы над магіламі далёкіх продкаў, падыхаць паветрам роднага куточка зямлі. Іван Несцяровіч стаў атрымліваць лісты ў адказ. Адгукаліся не толькі людзі старэйшыя, пісалі сыны і ўнукі былых аднавяскоўцаў.

І вось аднойчы, у вызначаны дзень, па зарослым травой і кустоўем гасцінцы, які вёў да былой вёскі Лахазва, пайшлі і пайшлі людзі. Віталіся, абдымаліся, плакалі, успаміналі... Многіх аднавяскоўцаў не было сярод іх: загінулі ў партызанскіх атрадах, на франтах Вялікай Айчыннай. Тады і вырашылі: абавязкова паставіць ім помнік.

Сціплы, але дарагі сэрцу гэтых людзей абеліск стаіць сёння на ўзгорку. На ім імёны загінуўшых у баях за свабоду і незалежнасць Радзімы. Кожны год збіраюцца каля гэтага помніка жывыя.

І сёлета такая сустрэча была. Адусюль прыехалі землякі.

Пяцьдзесят чатыры двары было на даваеннай вуліцы Лахазвы. На сёлетнюю сустрэчу прыехала каля трохсот чалавек.

Былі слёзы, былі і песні, тыя песні, што спявалі ў вёсцы яшчэ да вайны. Арганізавалі выстаўку рукадзелля майстрых — жыхарак былой Лахазвы, якія не забываюць вышываныя ўзоры сваіх маці і бабуль. Стаяў тут і макет дома Івана Несцяровіча, дома, падобнага да ўсіх хат даваеннай Лахазвы.

Сустрэча землякоў, сустрэча суровай памяці...

**Анатоль ПАЛОНСКІ.**

# Speech by Mikhail GORBACHEV, General Secretary of the CPSU Central Committee, on Soviet TV

Good evening, dear comrades. We meet again, and the subject once more is Reykjavik. A most serious matter. The meeting with the US President has aroused the entire world. Much new data has emerged over the past few days demanding assessments which I would like to share with you today.

I told a press conference in Reykjavik, you remember, that we shall yet return more than once to the meeting between the leaders of the USSR and the US.

I'm convinced that we have even now not realized the entire significance of what has happened. But are sure to. If not today, then tomorrow, but we shall grasp the full magnitude of Reykjavik and do justice both to the accomplishments and gains, and to the missed opportunities and losses.

Dramatic as the course of the talks and their results were, the Reykjavik meeting greatly facilitated, probably for the first time in many decades, our search for nuclear disarmament.

I believe now that, as a result of the meeting, we have risen to a higher level not only in analyzing the situation, but in determining the objectives and framework of possible accords on nuclear disarmament.

Finding ourselves a few steps from practical agreement on such a difficult and vitally important issue, we all grew to understand to a far greater extent the danger facing the world. We feel stronger the need for immediate solutions and, most important of all, we know at present that it is realistic and possible to avert the nuclear threat.

At this point, I would like to note that the Soviet programme for eliminating nuclear arms by the year 2000 was described until recently by many pundits of world politics as illusory, as an unrealizable dream.

Indeed, this is the case when past experience is neither wealth nor counsel, but a burden that makes search for solutions more difficult.

Reykjavik generated not hopes alone. Reykjavik also highlighted the hardships on the road to a nuclear-free world.

Without grasping that fact, it is impossible to assess correctly the results of the Icelandic meeting.

The forces opposed to the trend towards disarmament are great. We have felt that both during the meeting and since. Much is being said now about Reykjavik.

Realistically-minded people assess the meeting in Iceland as a major political event. They welcome the fact that it has resulted in an advance to new qualitative levels in the fight against nuclear weapons. The results of Reykjavik, as they are viewed by the Soviet leadership, encourage all who want a turn for the better.

Interesting assessments are being made within the state, public and scientific quarters of most countries. The opportunities that have become apparent are being characterized as corresponding to universal human aspirations.

It is the common view that the meeting has raised to a new level both the Soviet-American dialogue and the East-West dialogue as a whole. It has been taken out of the plane of technical estimates and numerical comparisons to new parameters and dimensions.

This height reveals new prospects for solution of the current acute problems. I mean security, nuclear disarmament, prevention of new spirals in the arms race, and fresh realization of the opportunities that have opened up before mankind.

The debate on the meeting is, one might say, only beginning. I believe, indeed I am confident, that it will mount. So will, as we believe, the general efforts of people, political and public quarters to tap the possibilities that opened up in Reykjavik.

What was outlined there was the route to resolving the vital issues on which the very fate of mankind depends.

Yet, the time that has elapsed since Reykjavik has demonstrated something else.

Quarters linked with militarism and arms race profits are clearly scared. They are doing their utmost to cope with the new situation and, coordinating their actions, are trying in every way to mislead the people. They are doing their utmost to place under control the sentiment of broad sections of the world public, to suppress their quest for peace, and to hinder governments from taking a clear-cut position at this decisive moment in history.

These quarters have at their disposal political power, economic leverage, and powerful mass media. Of course, one should not overestimate their strength, but one should not underrate it either. All indications are that the battle will be a difficult one. Forces in the camp of the enemies of detente and disarmament have begun to regroup. Feverish efforts are being made to put up such obstacles as will check the process spiralling in Reykjavik.

In the circumstances, I consider in necessary to return to the acute issues which appeared on the order of the day in connection with the meeting in Iceland.

Our point of view, which I set forth one hour after the meeting, has not changed. I state that not only to reiterate the appraisals made earlier.

I do so to draw your attention to the word-juggling and dissonance which we are observing. It might be the effect of confusion, perplexity, but might well be a preplanned compaign to cheat ordinary people.

Different explanations are being given of the aims set before the meeting. From the initial curses of the Reykjavik meeting a prompt and concerted turn was made to words of praise.

A hectic campaign started to misappropriate the other side's proposals.

The main forces were brought in to defend an SDI held up to shame in Reykjavik. Generally speaking, Washington is now living through some hectic days.

But what is that? A preelection game which needs a picture of Reykjavik is a success? Or are we dealing with an unpredictable policy for years to come?

This phenomenon needs serious study.

It certainly has not escaped our attention how and where certain political quarters are steering the discussion of the meeting.

The key elements of that campaign are worth mentioning. Efforts are being made to paint over the destructive position of a US administration which came to the meeting unprepared. It came, let me say one more time, with the old baggage. But when there was no avoiding a situation demanding clear answers, it blasted the chance to crown the meeting with accords.

Efforts are being made, in the new post-Reykjavik situation, to compel the USSR to go back to the old approaches, to pull it back to fruitless numbers debates, to walking in circles in the conditions of a deadlock.

Evidently there is no small number of politicians in the West whom the Geneva talks suit as a screen rather than a forum for seeking accords.

What was being thoroughly disguised previously is now becoming more clear: among US and West European ruling circles, there are powerful forces which would frustrate the process of nuclear disarmament. Some people are again making nuclear weapons out to be a boon.

A half-truth is the most dangerous lie, as the saying goes. It is very disquieting that not just the rightist media but ranking figures in the US administration as well have taken such a stand and at times a stand of downright deception, too.

I have already related how matters stood in Reykjavik. We went to the meeting with constructive and the most radical arms reduction proposals in the entire history of Soviet-US negotiations. The proposals take into account the interests of both sides.

Arriving in Iceland, I told the leaders of that country so on the eve of the meeting. By the middle of the first session of talks with the President of the United States, the proposals had been handed over to him.

Far-reaching and interconnected, they constitute an **integrated package** and are based on the programme we announced on January 15 for the elimination of nuclear weapons by the year 2000.

**The first proposal** is to cut by half all strategic arms without exception.

**The second proposal** is to fully eliminate Soviet and US medium-range missiles in Europe and immediately set about talks on missiles of this type in Asia as well as on missiles with a range of less than a thousand kilometres. We suggested freezing the number of such missiles immediately.

**The third proposal** is to consolidate the ABM Treaty and to start full-scale talks on a total ban on nuclear tests.

It was on the basis of the Soviet proposals that the discussions I described in detail in my previous speeches began.

Through laborious effort and acute argument, the two sides' position drew reassuringly closer together on two out of three areas.

The logic of the talks brought the sides to determining specific periods for the elimination of strategic offensive arms. President Reagan and I agreed that such arms of the USSR and the USA can and must be fully eliminated by the year 1996.

An accord was also reached on complete elimination of US and Soviet medium-range missiles in Europe and on a radical cut in the missiles of this class in Asia.

We attach fundamental importance to these accords betweet the USSR and the United States: they have shown that nuclear disarmament is possible.

Such is the first half of the truth about the Reykjavik meeting. But there is also another half and it consists in the fact, as I have already said, that the US side frustrated an agreement which, it seemed, was quite near at hand.

The US administration is now trying in every possible way to convince people that a possible major success with concrete agreements was not achieved owing to Soviet unyieldingness over the programme of the so-called Strategic Defense Initiative (SDI).

It is being even asserted that we allegedly lured the President into a trap by putting forward «breathtaking» proposals on cutting down strategic offensive arms and medium-range missiles, and that later on we ostensibly demanded in an ultimatum form that SDI be renounced.

But the essence of our stand and of our proposals is as follows: we are for reduction and then complete elimination of nuclear weapons. We are firmly against a new stage in the arms race and against its transfer to outer space.

Hence we are against SDI and are for consolidation of the ABM Treaty.

It is clear to every sober-minded person that if we embark upon the road of deep cuts and, then, complete elimination of nuclear weapons, it is essential to rule out any opportunity for either the Soviet or US side to gain unilateral military superiority.

We perceive the main danger of SDI precisely in a transfer of the arms race to a new sphere, and the endeavours to go out into outer space with offensive arms and thereby achieve military superiority.

SDI has become an obstacle to ending the arms race, to getting rid of nuclear weapons, and is the main obstacle to a nuclear-free world.

When Mr. Shultz, US Secretary of State, tells the Americans that SDI is a sort of «insurance policy» for America, that is, to say the least, an attempt to mislead the American people.

In actual fact, SDI does not boost America's security but, by opening up a new stage in the arms race, destabilizes the military-political situation and thereby weakens both US and universal security.

The Americans should know this.

They should also know that the US stand on SDI, as stated in Reykjavik, fundamentally contradicts the ABM Treaty. Article 15 of the Treaty does allow a party to withdraw from the Treaty but only under certain circumstances, namely «if it decides that extraordinary events related to the subject matter of this Treaty have jeopardized its (party to the Treaty) supreme interests». There have not been and are no such extraordinary events. It is understandable that the elimination of nuclear weapons, if started, would make the emergence of such extraordinary events still less probable. This is logical.

Article 13 of the ABM Treaty also stipulates that the sides should «consider, as appropriate, possible proposals for further increasing the viability of this Treaty». The US, on the contrary, is seeking to depreciate the Treaty, and deprive it of its meaning.

These are all quotations from the document signed by the top representative of the United States.

Many a tale has been invented to raise SDI's prestige. One of them is that the Russians are terribly afraid of it. Another is that it was SDI that brought the Russians to the talks in Geneva and then to Reykjavik. A third is that SDI alone will save America from some «Soviet threat». A fourth is that SDI will give the United States a great technological lead over the Soviet Union and other countries, and so on, and so forth.

Knowing the problem, I can say now only one thing: continuation of the SDI programme will sweep the world into a new stage of the arms race and would destabilize the strategic situation.

The rest of what is being ascribed to SDI is very dubious in many respects and is being done to giftwrap a suspect and dangerous commodity.

The President, in upholding his position that thwarted the reaching of agreement in Reykjavik, asks rhetoric questions: Why do the Russians so stubbornly demand that America forever remain vulnerable to a Soviet missile strike? Why does the Soviet Union insist that we remain defenceless forever?

I'm surprised at such questions, I must say. They have the air of indicating that the American President has an opportunity to make his country invulnerable, to give it secure protection against a nuclear strike.

As long as there exist nuclear weapons and the arms race continues, he does not have such an opportunity. The same, naturally, applies to ourselves.

If the President counts on SDI in this respect, it is in vain. The system would be effective only if all missiles were eliminated. But then, one might ask, why the antimissile defence altogether? Why build it? I don't mention the money wasted, the cost of the system — according to some estimates, it will run into several trillion dollars.

So far, we have been trying to persuade America to give up that dangerous undertaking. We are urging the American administration to look for invulnerability and for protection another way — the way of total elimination of nuclear weapons and establishment of a comprehensive system of international security that would preclude all wars — nuclear and conventional.

The SDI programme remains as yet an integral part of the US military doctrine.

The current **Defense Guidance for 1984-1988,** produced at the Pentagon at the beginning of Reagan's term in office, directly provides for developing space-based systems, including means to destroy Soviet satellites and boost the antimissile defences of US territory with a possible US pull-out from the ABM Treaty.

That document emphasizes that military rivalry with the USSR should be channeled into new areas so as to make senseless all previous Soviet expenditures on defence and make all Soviet weapons obsolete. Once again, as you see, the old ghost-hunt, as former President Nixon put it, once again, the calculations are on wearing out the Soviet Union.

It is hard for the current administration to learn lessons.

Is it not the answer to the question why its commitment to SDI is so stubborn? The Star Wars plans have become the chief obstacle to agreement on averting the nuclear threat. In vain Washington is now claiming that we are moving towards an agreement. Only politically naive people could accept eliminating nuclear weapons as a means of deterring American aggression, and getting a threat from space in return. There are none in the Soviet leadership.

It is hard to reconcile oneself to the loss of a unique chance — that of saving mankind from the nuclear threat. Bearing pre-

